**Алесь Петрашкевіч**

# ПРАГНОЗ НА ПАСЛЯЗАЎТРА

**(Фарс у дзвюх дзеях)**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

***Муравьёв.*** Уважаемый эксперт, суду нужны не ваши предположения-гадания: то ли умер от удара в висок, то ли от обширного инфаркта. Вы нам ответьте конкретно и определённо: от чего наступила смерть гражданина Иванова-Чингизханова! И что ей предшествовало – удар в висок тупым предметом или обширный инфаркт миокарда!

***Радзівіл.*** Паважаны пракурор, было б вельмі лёгка і проста, калі б я мог даць свой катэгарычны і пэўны адказ на ваша катэгарычнае патрабаванне. На жаль, мы маем той выпадак, калі непасрэдныя прычыны наступіўшай смерці па часе стаяць вельмі блізка адна ад другой. Яны амаль накладваюцца, а можа і накладзіся.

***Муравьёв.*** И тем не менее, ваш вывод и однозначный ответ: от чего наступила смерть потерпевшего?! Ваша профессиональная обязанность дать суду именно такой ответ!

***Радзівіл.*** Даруйце, але мушу даць вам не адзін, а тры раўназначныя адказы, ні адзін з якіх у дадзеным выпадку не задаволіць правасуддзе. Першы: смерць Іванова-Чынгізханова наступіла , магчыма, ад пралома скроневай касці. Другі: смерць наступіла, магчыма, ад інфаркту міякарда. Трэці, а я толькі схіляюся да яго, а не канстатую, як таго патрабуе сітуацыя, пралом скроневай косці мог справакаваць інфаркта міакарда.

***Муравьёв.*** Дети, а не эксперты судебной медицины!.. Извините…

***Радзівіл.*** Даруйце, паважаны пракурор, але нават пры вашым сталым узросце і багатым досведзе, вы наўрад ці дасцё адказ на пытанне, што раней з'явілася на свет: яйка ці кураня, не кажучы ўжо аб тым – курачка ці пеўнік.

***Муравьёв (з'едліва).*** "Пеўнікі"!.. Обвинение больше вопросов не имеет.

***Сапежанка.*** Пытанні да эксперта?..

***Касцюшка.*** З вашага дазволу… Скажыце, паважаны эксперт, ці даследаваліся вамі рэшткі куфля на прадмет выяўлення на іх слядоў эпітэлію скроневай вобласці пацярпелага?

***Радзівіл.*** Следчы не ставіў такога пытання перад экспертам.

***Касцюшка.*** Матэрыялы справы сведчаць, што вы рабілі і дактыласкапічную экспертызу. Вамі пацверджана, што на рэштках куфля выяўлены адбіткі пальцаў толькі майго падабароннага.

***Радзівіл.*** Так, толькі яго.

***Касцюшка.*** А ці была сярод рэштак куфля ручка ад яго?

***Радзівіл.*** Не, не было.

***Касцюшка (да Сапежанкі).*** Я хацеў бы пераканацца, што сярод рэчавых доказаў ручкі ад куфля няма…

***Сапежанка.*** Калі ласка.

***Касцюшка*** *(агледзеўшы рэшткі куфля на стале ў суддзі, да Агінскай).* Прашу занатаваць у пратаколе, што адвакат Касцюшка пры аглядзе рэчавых доказаў не выявіў ручкі ад куфля, якую бачыла сведка Козолупова заціснутай у руцэ нябожчыка Іванова-Чынгізханова… І апошняе… Як вы думаеце, спадар Радзівіл, паўторная судова-медыцынская экспертыза і загінуўшага, і рэштак куфля магла б даць нейкія канкрэтныя вынікі?

***Радзівіл.*** Пра гэта гаварыць позна. Нават калі б эпітэлій на рэштках куфля ўдалося выявіць, яго не было б з чым параўнаць. На колькі мне вядома, астанкі пацярпелага крэміраваны.

*Муравьёв не вытрымлівае гэтай навіны і бразгае алоўкам аб стол.*

***Касцюшка.*** Што вы можаце сказаць аб ступені ап'янення пацярпелага?

***Радзівіл.*** У шлунку і крыві пацярпелага выяўлена мізэрная колькасць спірытус віні.

***Касцюшка.*** Абарона больш пытанняў не мае.

***Сапежанка.*** Сядайце спадар Радзівіл… Суд пераходзіць да спрэчак бакоў. Для абвінавачага заключэння слова даецца пракурору Муравьёву.

***Муравьёв.*** К сожалению, не могу этим воспользоваться, пока в зал суда не будет возвращён представитель потерпевшего Суворов Александр Васильевич…

***Сапежанка.*** Прадстаўнік пацярпелага Сувораў запрашаецца ў залу суда.

***Муравьёв.*** Спасибо.

*Уваходзіць Суворов і займае сваё месца.*

Уважаемый товарищ судья! Уважаемые товарищи присяжные заседатели! Судебное разбирательство вступает в самую ответственную стадию. В своей обвинительной речи я обязан дать глубокую политическую и юридическую оценку совершённого Константином Калиновским преступления, вскрыть его причины, показать истинное лицо преступника и тот страшный и порочный путь, который привёл его на скамью подсудимых с клеймом убийцы на челе. Сегодня его удел —эта позорная железная клетка, дорога из которой для него одна – в небытие и никуда больше. Используя судебную трибуну, я постараюсь разоблачить *(распаляецца)* всю низость, мерзость, отвратность и гнусность совершённого преступления! *(Набірае штучны пафас.)* Как государственный обвинитель я ставлю своей целью создать вокруг преступника атмосферу морального бойкота и презрения, мобилизовать общественное мнение против злодея-убийцы и его покровителей за стенами этого здания.

Высокочтимый суд! Уважаемые соотечественники! 9 мая, в день Победы, когда сама весенняя природа звала нас к жизни и радости бытия, оборвалась жизнь славного воина, ветерана-чекиста, борца за нашу свободу и независимость, в конце концов, не только старого большевика, но и беспомощного человека, который годился в дедушки своему убийце. Гнусное, подлое и наглое убийство незабвенного Иванова-Чингизханова Авангарда Батыевича потрясло не только столицу, но и вызвало возмущение и негодование всех честных людей нашей страны и близкого зарубежья.

Бывает, что в быту разгораются страсти, накапливается неприязнь, обостряются низменные чувства – в результате наступает трагическая развязка – убийство человека. Убийство, рассматриваемое судом сегодня, с иной категории. Оно совершенно на почве политической мести и в связи с выполнением потерпевшим его общественного долга. Это скорее не просто убийство при отягчающих обстоятельствах, а акт политического террора.

Подлый убийца, наёмный террорист, хищный зверь в человеческом облике перед вами, товарищи присяжные заседатели, судьи и публика! Сегодня зверь укрощён! Сегодня он обезопашен и обезврежен благодаря нашей славной полиции и нашего суда, самого демократического в мире! Но зададим себе вопрос: а обезврежены ли те силы, которые породили это чудовище и толкнули его на тягчайшее преступление?! Нет! И ещё раз нет! Именно эти силы набирают сегодня силу! Простите за каламбур.

Такие дела, как это, принято называть громким. Да, оно громкое, но, к счастью, не сложное. Применительно к преступнику, оно элементарно и примитивно. Но!.. В своей примитивности и цинизме оно как раз и тант начало тех потрясений, перед которыми мы все оказались в силу так называемого демократического развития нашего общества, или как они говорят: "адраджэння". Спрашивается: "адраджэнне каго і чаго?!"

Чтобы ответить на этот непростой вопрос, давайте вернёмся к истокам преступления, шаг за шагом проследим за его непосредственным исполнителем.

Проведённое следствие показало, подтвердило, что подсудимый Калиновский в день 9 мая оказался в авангарде колонны так называемых демократов, хотя адвокат почему-то пытается внушить подсудимому, что его там не было. Ловушка, расставленная Суворову, не сработала. Алиби подсудимого не доказано. Да и о каком алиби может идти речь, если подсудимый не отрицает своей встречи с потерпевшим в баре "Русичи" по Коммунистической. Именно здесь он нанёс роковой удар своей жертве, что подтверждается показаниями свидетеля Холуевича, заключением эксперта и вещественными доказательствами, как то осколками бокала, на которых убийца оставил отпечатки своих пальцев.

И далее… Будучи уличённым в преступлении, подсудимый на стадии следствия под тяжестью неопровержимых улик сознается в содеянном и в то же время замышляет опорочить следствие во время судебного разбирательства. Отсюда и появляется детская сказка об избиении его в камере предварительного заключения. Отсюда и это окровавленная сорочка, под которой он, как под знаменем махрового национализма предстаёт перед судом. Все мы были свидетелями того, как защита пыталась опорочить и дискредитировать не только свидетеля Холуевича, но и представителя потерпевшего – Суворова. Фарс с деньгами, которые он якобы предложил свидетельнице Козолуповой, разыгранный перед судьями и публикой, сам по себе талантлив в исполнении, но не убедителен для суда, ибо приём стар, как мир.

Я полагаю, что судебное следствие, которое прошло перед нами с предостаточной полнотой, глубиной и объективностью исследовало все материалы дела, что позволит присяжным заседателям без сомнений и угрызений совести вынести вердикт, который прозвучит однозначно: виновен! Виновен в умышленном убийстве, а по сему снисхождения не заслуживает!

С кем же суд имеет дело?! С кем наше общество имеет дело?! Кто, как, когда и при каких обстоятельствах породил такое чудовище, которое не безопасно держать вне железной клетки вплоть до приведения приговора в исполнение?! Подсудимому только 27 лет. За плечами университет и крестьянское происхождение, место в школе и койка в общежитии, зарплата хоть и не велика, но всё же зарплата, а не пособие по безработице, бульба и сало – родительские. Казалось бы, живи, дерзай, пробуй! Ан нет! Куда как проще вступить в Народный Фронт, взять на вооружение не советский патриотизм с интернационализмом, а идеологию национал-фашизма с сепаратизмом, мутить честный народ и под этой "бел-чырвона-белай анучай" готовить его к свержению законной власти коммунистов, аграриев и Словянского собора.

Мы все были сегодня не только участниками судебного процесса, но и свидетелями возмутительного, вызывающего поведения подсудимого в суде. Чего только стоят его гнусные выпады против главы державы и её символов. А это дерзкое, беспрецедентное требование обеспечить переводчика в то самое время, когда народ категорически не желает изучать "мову"! А выпады против присяжных и беспардонные пререкания с судьёй и про-куроро



*Муроывьёыв*

Высокий суд! Уважаемые товарищи присяжные заседатели! Преступление, которое мы призваны волею народа осудить и наказать, столь преднамеренно, злостно и имеет столь разрушительные тенденции, что цивилизация не может терпеть, чтобы его игнорировал, так как она погибает, если такие преступления умножаются. (Зачытвае з паперы.). Сейчас в этом жалком субъекте трудно заметить признаки той власти, при помощи которой его единомышленники могут занять господствующее положение в нашем обществе. Это судебное разбирательство приобретает такую возможность ещё и потому, что преступник, заключённый в клетку, представляет в своём лице зловещие силы так званой демократии, которые будут таиться в мире и у нас ещё долго после того, как тело подсудимого превратится в прах. Этот человек, если его условно можно назвать человеком, символ расовой ненависти террора и насилия, надменности и жестокости, порождение так называемого "адраджэння і незалежнасці". Это – символ жестокого национализма, интриг и провокаций, которые могут повернуть наше общество в кровавый кошмар насилия. Национал-радикалы, а точнее национал-фашисты, в такой степени приобщили себя к созданной ими философии и руководимыми ими силами, что проявление к ним жалости или снисхождения, а равно и к подсудимому Калиновскому, будет означать победу и поощрение того зла, которое связано с их именами.

Цивилизация не может позволить себе какой-либо компромисс с социальными силами, которые приобретут мощь, если мы поступим двусмысленно или нерешительно с людьми, в лице которых эти силы продолжают своё существование. *(Адрываецца ад паперкі.)*. Короче, деяние подсудимого Константина Константиновича Калиновского, воплотившего в себе самые отвратительные черты морально-разложившегося, деморализованного, жестокого и мстительного чудовища, лишившего жизни защитника социалистического Отечества, - государственное обвинение квалифицирует по статье 100 УК РБ, пункт "в" - умышленное убийство при отягчающих обстоятельствах и требует применить к подсудимому Калиновскому высшую, исключительную меру наказания.

*Пры мёртвай цішыні Муравьёв садзіцца на сваё месца.*

*(Працяг у наступным нумары).*

Юры Карэйва

# “ХАЙ СТАНЕ МАЛЕННЕМ ВЕРШ!..”

*Ён быў адзінотнікам, і яго ўнутраныя рэчаіснасць падавалася скарбам, што насіўся ў “гліняным” посудзе, і ніхто да яго доступу не меў.*
*Юрась Залоска.*

Творчае спатканне з аўтарам паэтычнага радка, які ўзяў я ў якасці назову гэтага своеасаблівага эсэ-рэпартажу, сябрамі Лідскага таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны меркавалася правесці яшчэ дзесь напрыканцы мінулагодняе восені. Але ўжо неяк так склалася, што аўтару трох зборнікаў вершаў “Саната ростані”, “Саната поўні”, “Рэха малітвы”) і кнігі аб праявах нацыянальнага нігілізму і манкуртызму ў дачыненні да матчынай мовы асавечанымі і зрусіфікаванымі беларусамі (“Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс”, Лондан, 1985) Алегу Бембелю, шырокавядомаму, асабліва – ў айчынным інтэлектуальным свеце, Зьнічу, а з 1996 года паслушніку святой Жыровіцкай Абіцелі, галоўнаму рэдактару суіменнага з ёю знакамітага свайго багаслоўска-літаратурна-мастацкага “Лістка”, брату Алегу, ніяк дагэтуль не выпадала дастацца да нас не надаралася.

І нарэшце толькі сёлета, ужо вясной (15 траўня 2000-га года), сустрэча з ім, гэтак чаканая лідзянамі, сябрамі мясцовага аддзялення ТБМ і літаратарамі нашага горада, адбылася. Напачатку а 7-ай гадзіне вечара – у Гарадскім палацы культуры, затым, назаўтра, а 1-й дня – у СШ № 15 г. Ліды.

У той памятны вечар сьвятар мясцовага праваслаўнага прыходу айцец Аляксей Найпашаноўнага Госця прадставіў як Асобу, што за свой галоўны жыццёвы абавязак іміе найперш практычнае служэнне Творцу ўсяго Існага, але пры ўсім тым і – як натхняемага Богам на паэтычную творчасць хрысціянскага мысліцеля і філосафа, падзвіжніка і асветніка, музыку і прарока. Айцец Аляксей падкрэсліў, што менавіта адпаведна такому разуменню мае быць і характар самое сустрэчы.

І вось да светлагожага зіхцення чырвонага зыркага рубіну лампадкі-зніча перад настольнаю выяваю Абраза Найсвяцейшай Жыровіцкай Божае Маці, за задумлівай глыбокае зальнае цішы дадаўся і запраменіў у ёй, зазвяў сапраўднай жывою паэзіяй гучны Зьнічовы Голас...

1.

Зьніч... Вядома ж, знічка – то зорка, якая, нібыта самоткая Божая слёзка, коціцца да нас з недасяжных нябёсных скляпенняў ды хутка вельмі, як і ўсё ў гэтым нявечным свеце, знікае, згасае... Можа ў тым, знічным, часе-імгненні загадаць жаданне – абавязкова сапраўдзіцца, галоўнае, каб было яно самым запаветным, і – светлым, чыстым, як крышталь гэтай раптоўна ўзніклай ды зноў сыходнае ў іншабыт Божае слязінкі-знічкі.

А яшчэ, знічкі – ледзь бачнапрыкметныя незварушныя зоркі, тыя, што знічуюцьмігцяць, то знікаючы, то зноў узнікаючы, на небе...

А калі хто цікавіўся, што ж такое Зьніч, скуль ён “дайшоў” да нас, то, канешне ж, ведае, што гэта ахвярапрынашальны, незгасальны ніколі, вечны, жыццядайны і жыццяствораны агонь нашых продкаў – агонь паганскага святлішча, зазвычай на каменным (камень, які і сам гэты агонь-Зьніч, ёсць у самасвядомасці продкаў сімвалам вечнасці) алтары (алтары, латыры). Ва ўяўленнях нашых мудрых прашчураў агонь гэты ёсць, найпачай, жывым увасабленнем самога ягонага бога – Зьніча. У тыя, неспасціжна далёкія для нашага збедненага і прыкалечанага тэхнагенэзнай сучаснасцю розуму, часіны, якія сёння нам здаюцца хіба што ледзь ні самою вечнасцю, калі продкі нашыя нічога яшчэ не ведалі пра Адзінатворцу знічна-зорнага сусвету і ўсяго існага ў ім, паганскі бог Зьніч у пантэоне мноства іншых, у тым ліку і “вогненага паходжання” боства (Ярылы, Сотвара, Пяруна, Маланкі, Агме-ню, Жыжаля...) займаў далёка не апошняе месца.

У Хрысціянскую Эру тое, што ў нас на Беларусі часам называюць знічам, знічкай, стала своеасаблівым сімвалам самога... Хрыста! Гэта – і помнік агню свечкі, і сама свечка, Хрыстова свечачка, гэтаксама – і лампадка з вогнікам-знічом.

2.

Гэтак мы, нібыта крыху аддаліўшыся ў разважаннях ад паэтычнага спаткання з нашым Шаноўным Аўтарам, зноў вярнуліся “на кругі свая”...

Вось брат Алег ля Іконкі Маці Божае Жыровіцкай і лампадкавага Хрыстовага пломніка-зніча пачынае з намі сваю, напоўненую жывою, шчыраю чалавечаю споведдзю-малітваю і вольным Боскім Дыханнем, паэтычную бяседу, дакладней – сумоўе, якое прапанаваў нам, каб былі мы не толькі слухачамі, але і – сумоўнікамі. Прапанова гэтая ім аздоблена яркабліскучым параўнаннем нашае сустрэчы з суладдзем, суквеццем, сузор'ем.

Гучыць цыкл “Шляхам Святой Эўфрасініі”. Пачынаецца ён вершам “Хрыстос уваскрое! Усяісна ўваскросе!..” (глядзіце змешчаную ў гэтым нумары падборку). Як цудоўная прэлюдыя і аздоба да нашага сумоўя гучыць на фартэпіяна бліскуча выканаемая ім “Прэлюдыя званоў” Фрэдэрыка Шапэна. Дэкламуючы свае вершы-творы і кароценька каментуючы некаторыя з іх, такія як “Мова”, “Збавіцель”, “Беларусь”, “Свабода”, “Адвечнае”, “Грахі гісторыі”, “Касавінка і мы”, “Над свечнікам” і інш., аўтар распавядае аб сваім “пагляддзе з-за манастырскага муру” на нашую рэчаіснасць і канкрэтныя рэаліі свету. У цэнтры ўвагі сумоўнікаў – непазбежныя пытанні аб Беларусі, Беларускім Шляху, беларускай нацыянальнай ідэі, якія спрабуе сфармуляваць і акрэсліць шмат хто з нашых інтэлектуалаў, але, нажаль, покуль што няўдала: у першы чарод хутчэй з-за надуманай імі ж самімі нібыта надзвычайнай складанасці гэтых пытанняў ды з-за нежадання ўвесці ў іх і паставіць на першаплан трывалую ідэю Бога, ідэю Хрыста, і зрабіць умацоўным грунтамапірышчам усіх гэтых праблем Хрыстова вучэнне, якое ёсць “соль” і “закваска” іх паспяховага практычнага выхавання. Ці не сапраўды, не гледзячы на здаецца ж вялікую прасветленнасць іх розумаў, між імі ўсё яшчэ моцна-такі дзее той “дух цемрадзі”, якому, паводле слоў Юрася Залоскі, “само імя Хрыстова – прамоўленае альбо выяўленае літарамі – ненавіснае”?..

3.

Якім быў Зьнічовы шлях – шлях да Бога?

Вядома, што знакаміта-легендарны сваёю “юродлівую” неардынарнасцю Зьніч быў “увесь час у руху”, сыходзіў – “як знічка... з Нябёс да Зямлі, паўтараючы шлях Хрыста”, мяняўся, “пакідаючы за сабой зыркі метэарытны хвост-шлейф тлумачэнняў, здагадак, інтэрпрэтацый. Паэт?.. Філосаф?.. Дысідэнт?.. Грэшнік?..” (Людка Сільнова, “Крыніца”, № 9,1999г.) і вось ён – паслушнік Жыровіцкага Сьвята-Духаўскага манастыра брат Алег.

Стаў ім ва ўжо даволі спаважным веку – на пачатку шостага дзесятка год свайго жыцця. А хрысціўся толькі на сорак трэцім годзе, патаемна, на кватэры святара, будучы ўжо навуковым супрацоўнікам інстытута філасофіі і права Беларускай Акадэміі Навук.

Да гэтага – студыяваў на энергетычным факультэце Беларускага палітэхнічнага інстытута, а яшчэ раней – вучыўся ў музычнай школе-сямігодцы: спасцігаў майстэрства музычнага выканання пад пільным і клапатлівым наглядам сваёй маці Вольгі Анатолеўны, якая скарыстоўвала дзеля стымулу да пасняховага развучвання гэтак ненавісных п'ес і эцюдаў папружку і запэўнівала сына словамі: “Поумнеешь – благодарить будешь!”. І прадказанне сённе ўрэшце рэшт сапраўдзілася: неўзабаве, пасля чатырохгадовага перапынку ў музычна-інструментальных студыях, паступіў у музнавучальню, затым – у Беларускую Дзяржаўную Кансерваторыю.

Штуршком да такога, нікім не чаканага ад яго, учынку стала праслуханне, упершыню, у 18 год, “Паэтычнай санаты” і “Апасіянаты” Людвіка Ван-Бетховена, якія нагэтулькі ўразілі, што, забыўшыся на усё на свеце, закінуўшы студыяванне ў БПІ (незадоўга да дыплому), узяўся ўперліва развучваць упадабаныя творы сусветнай музычнай класікі. Гэтае “здарэнне” з ім дапамагло яму глыбока адчуць і пераканацца: музыка – адна з найвышэйшых Праяваў Боскай Сутнасці. Распавядаючы нам аб тым, брат Алег слушна заўважыў што, нажаль, элементы ейныя сёння почасту скарыстоўваюцца ў якасці аднаго з чалавекаразбуральных фактараў, дзеля падрывання маральных астояў і этычных нормаў у грамадстве, а вынікам гэтага – татальнае яго вынішчэнне...

4.

Менавіта ў Белдзяржкансерваторыі (сярэдзіна 60-х гг..) пачаўся яго шлях да больш поўнага, творчага самапраяўлення тады яшчэ не Зьніча, а Олега Отступника, аўтара крамольнай машынапіснай, у беларушаным “выкананні”, “Песни любви Христу..”, якая выклікала адпаведнае рэагаванне адпаведных ворганаў, ад больш рашучых дзеяў якіх у дачыненні да “бунтаўніка” уратавала высокае службовае становішча ягонага бацькі – вядомага скульптара Андрэя Бембеля.

Напоўніцу захапілі дзьве стыхіі: музычная і слоўная – праз творы Ніцшэ і Шопэнгаўэра (гэтыя філосафы “узрушылі таксама не менш, чым Бетховен і Шапэн”).

Да музыкі ж нацыянальнай – Беларускай мовы – прыйшоў менавіта праз тую музыку, якую пачаў у самой мове. гэтае ўсё намоцна і настала ўтрывалася ў свядомасці дапытлівага інтэлектуала ў выглядзе разумення: гармонія нацыянальнага і інтэрнацыянальнага – універсальная жывая мадэль Існага і наўпраставая Мова Бога.

Нацыянальная тэма ўсяго далейшага ягонага жыцця адкрылася і запачаткавалася тады, калі пасля кансерваторыі паступіў у аспірантуру Інстытута філасофіі і права Беларускай Акадэміі навук, і вынікала яна непасрэдна з тэмы ўступнага рэферата “Творчы метад кампазітара ў адносінах да яго светапогляду (на прыкладзе творчасці Рыхарда Вагнера)”.

*(Працяг у наступным нумары)*

## СЬВЯТЫ ПОКРЫЎ НАД БЕЛАРУСЬСЮ

*...Птушка Белая – над Краінай Сіняй –*
*То ахова наша і сіла...*
*Гэта дух Сьвятой Еўфрасіньні...*
*Гэта слова Сьвятога Кірыла...*
*...то ахвярнасць Сафіі Слуцкай...*
*І пакутнікаў Вільні даўняй...*
*То Сьвятыя зямлі Беларускай*
*Да Хрыста ўзышлі пакаянна...*
*...Птушка Белая – па-над Краям Сінім,*
*Барані нас ад ч о р н а е  б ы л і...*
*Хай асьвеньцяць Божыя сілы*
*Нас, што ў немачы саграшылі...*

## КАСАВІНКА І МЫ

*... побач з Хрыстом – і так далёка! –*
*памёр разбойнік на крыжы...*
*у болю й злосьці, як і жыў, -*
*без пакаяньня й без выроку...*
*...другі, ў апошнюю хвіліну, -*
*цаною здрады сябрукам*
*ды згубным дзманскім шляхам –*
*знайшоў да Бога пуцявіну...*
*...а трэці, пушчаны на волю*
*замест расьпятага Хрыста,*
*ён намі незаўважна стаў –*
*г і с т о р ы я й*
*і н а ш а й  д о л я й... ...*

***

*Мовай Славянскай Гасподзь аб'яднаў*
*люд і абшар Праваслаўны...*
*блудных сыноў – праз стагоддзі – гукаў*
*музыкай Слова ў Храмах...*
*... з Мовы Славянскай*
*сумоўе культур*
*і праваслаўных плямёнаў*
*вырасла – між вынішчальных віхур*
*і авантур утрапёных...*
*...Мовай Славянскай, -*
*як небам – крыло –*
*рознапляменныя мовы*
*поўняцца, жывяцца, зьзяюць нанова,*
*твораць прастору й сьвятло!..*

## ГРАХІ ГІСТОРЫІ

*...я чую голас успамінаў,*
*нібы з магілы ўсіх вякоў:*
*“Сьвяшчэнны абавязак сына, -*
*як крыж, цягнуць грахі бацькоў... ”*

*мне гэты камень не па сілах...*
*я падаю... і я малю:*
*не аддавай душу ў магілу,*
*Ойча, я ворагаў люблю!..*

*...ўспаміны сьцішацца сівыя*
*і голас, жорсткі і сухі...*
*і я вялікае Расіі*
*дарую даўнія грахі...*

*і новай руньню ўстануць пожні*
*стагоддзяў змрочных і глухіх...*
*і я дарую братняй Польшчы*
*яе шляхотныя грахі...*

*я ўхілюся ад сірэнаў...*
*і падымуся ад сахі...*
*і я Нямеччыне зьмірэннай*
*дарую Марсавы грахі...*

*тысячагоддзяў злыя раны*
*правуцца, бы гнілы пухір...*
*і я дарую Ватыкану*
*палітыканскія грахі...*

*я прытулю матэрыкі,*
*што пад драконам акаяным:*
*фундаментальным бусурманам...*
*ды новым златаскурым Ханам...*
*ды Нова- і Стара-Паганам*
*дарую Саўлавы грахі...*

*і Дух Сьвяты аблашчыць сэрца...*
*як ноч, адыйдзе дух ліхі...*
*і возьме валадарства сьмерці*
*мае ўласныя грахі.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 21.06. 2000 г.
Наклад 3200 асобнікаў. Замова № 1684
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 147 руб., 3 мес.- 441 руб.
**Кошт у розніцу:** 35 руб.